

№ 23 (184)
Чэрвень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:






## Усвядоміць сваё месца

Сярод разнастайных мерапрыемстваў Мінскі дзяржаўны палац дзяцей і моладзі традыцыйна праводзіць конкурсы, прысвечаныя краязнаўству. Нядаўна былі падведзеныя вынікі III конкурсу школьных праектаў «Любімы куточак роднага краю». Вучням горада Мінска было прапанавана апісаць пэўнае месца ў сталіцы або за яе межамі, распавесці пра ягоную гісторыю і сённяшні дзень, прапанаваць свае праекты добраўпарадкавання мясціны.

У выніку ў фінал трапілі 12 праектаў, прысвечаныя паркам Мінска, новым мікрараёнам, заапарку, а таксама – музею архітэктуры і побыту пад адкрытым небам у Строчыцах, Лепелю, Сноўскаму палацу Рдултоўскіх, вёсцы Сітцы Докшыцкага раёна. Журы (зусім не строгае, а прыязнае) з цікавасцю выслухала абарону праектаў школьнікамі, задавала пытанні, удакладняла пэўныя факты – вызначала найлепшых. Справа тая была не зусім простаю. Пераважная большасць удзельнікаў выявіла непадробную зацікаўленасць канкрэтным месцам, шукала гістарычныя звесткі пра яго, распытвала мясцовых жыхароў, склала планы рэканструкцыі або пераабсталявання для патрэбаў людзей.


*(Заканчэнне на стар. 2)*





*Малюнак Васіля Шаранговіча да паэмы Якуба Коласа "Новая зямля"*

### Дружа падпісчык, аўтар, чытач!

*Мы па-чалавечаму радыя, што Вы, маючы шчырае і патрыятычнае сэрца, падтрымліваеце «Краязнаўчую газету». Падпіскай, матэрыяламі, цёплым словам, парадамі. Мы былі расчуленыя, калі летась напрыканцы года нашу трывогу наконт далейшага лёсу выдання шчыра падзялялі многія прыхільнікі: некаторыя з іх нават даслалі на рахунак ГА «Беларускі фонд культуры» ( № 3015213300014 у філіяле «МГД» ААТ «Белінвестбанка», код 764 (на «Краязнаўчую газету») сродкі са свайго сціплага заробку на падтрымку. Праўда, былі і асобныя паняверцы: а ці варта падпісвацца на «КГ», калі яна можа запыніць існаванне?*

*Як бачыце, у сёлетнім І-ым паўгоддзі мы ўстоялі! Дзякуючы і нашым стойкім сябрам! І цяпер давайце, калі ласка, разам дбаць і далей пра патрэбную справу. Адпаведна, мусім звярнуцца і да Вас, самыя стойкія: сябры, мы рабілі ўсе высілкі, каб з першага нумара «КГ» (2003) утрымліваць кошт аднаго нумара, ведаючы, што наш сябра багаты розумам і душой, але не зусім на кашалёк. Цяпер жа мусім (інакш не ўстояць) з ІІ-га паўгоддзя 2007 года падвысіць цану. У межах самага-самага неабходна жыццёвага.*

***Новы кошт** індывідуальнай падпіскі на «КГ» наступны: 1 мес. – 4 390 руб., на 3 мес. – 13 170 руб., на 6 мес. – 26 340 руб. Кошт ведамаснай падпіскі: на 1 мес. – 4 534 руб., на 3 мес. – 13 602 руб., на 6 мес. – 27 204 руб.*

*Як бачым, павышэнне кошту не вельмі вялікае. Устоім? Нават пабольшым наклад «КГ»?*

*Загадзя вялікі дзякуй!*

*ГА «Беларускі фонд культуры»*
*«Краязнаўчая газета»*

### Нам пра нас



***Лявон ЦЕЛЕШ, географ, геолаг:***

*– Упершыню я даведаўся пра «Краязнаўчую газету» напачатку 2005 года. Зайшоў у рэдакцыю з тым, каб надрукавалі маю першую крыжаванку. Там ветліва сустрэлі Уладзімір Гілеп, Генрых Далідовіч, Уладзімір Пучынскі, іншыя супрацоўнікі. Вельмі хваляваўся: як-ніяк першая спроба... З таго часу я з'яўляюся сталым чытачом, аўтарам і падпісчыкам газеты.*

*Цяпер і не ведаю, як бы я мог абыходзіцца без «Краязнаўчай». І наогул, гэтая газета мне дала пуцёўку ў свет журналістыкі. Тут я з часам пачаў друкаваць допісы і артыкулы; потым асмеліўся прапаноўваць свае працы і ў іншыя выданні.*

*З вялікай цікавасцю чытаю кожны матэрыял у газеце. Пад уплывам маёй, цяпер – самай любімай, газеты я стаў цікавіцца гісторыяй і сённяшнім жыццём Дзяржыншчыны, дзе цяпер жыву.*

*Добрая газета, што і казаць! Невялікі штат супрацоўнікаў (у які акрамя названых вышэй людзей, уваходзяць Ігар Грэчка, Аліна Федарэнка, Леанід Бароўскі) робіць цуд: кожны нумар газеты – падарунак для падпісчыкаў. Гэтае выданне патрэбнае і вучням, і студэнтам, і навукоўцам, і ўсім, каго цікавіць нашая слаўная мінуўшчына. Яна вучыць нас любіць свой край – сінявокую Беларусь. Немалаважна, што гэта адно з нямногіх цалкам беларускамоўных выданняў у нашай дзяржаве.*

*Спадарожнага ветру ў твае ветразі, «Краязнаўчая газета»! Добрага здароўя і дабрабыту Вам, супрацоўнікі рэдакцыі!*

### Сябры, працягваецца падпіска на «Краязнаўчую газету» на 2-е паўгоддзе 2007 года



## Усвядоміць сваё месца

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Кораценька назавем некаторыя працы вучняў. Сябры турклуба «Романтик» гімназіі № 15 прапанавалі свой праект турыстычна-экалагічнага маршрута «Да возера Бяздоннага», дзе можна і з карысцю адпачыць, і пачуць легенды пра тое возера. Вучні 7 «В» класа СШ № 145 распрацавалі праграму «Кветкі беларускіх сядзібаў»: у музеі народнай архітэктуры каля дома з вёскі Волева Дубровенскага раёна яны зладзілі кветнік, засаджаны традыцыйнымі для тых мясцінаў кветкамі, а ў планах – пошук па іншых рэгіёнах. План рэканструкцыі лесапарку «Мядзвежына» прапанавалі сямікласніцы СШ № 211 – ідучы па «сцяжынцы здароўя», седзячы на новай лаўцы можна паслухаць птушак ды задумацца аб «мядзведжай» назве. Вучні з гімназіі № 50 ехалі на экскурсію ў Полацк, але па дарозе спыніліся ў Лепелі і захапіліся горадам, распавялі пра яго ў сваёй працы. Даша Альхімёнак з СШ № 67 зацікавілася вёскай Сітцы, дзе жыве яе бабуля, распавяла пра вякі мінулыя і дзень сённяшні. Хрысціна Аляксандрава з СШ № 116 зацікавілася мінскім заапаркам, сабрала факты з ягонай гісторыі і «біяграфіі» першых насельнікаў, паспрабавала зазірнуць у будучыню. Шасцікласніцы СШ № 96 сваю працу назвалі «Невядомае аб вядомым» – зацікавіліся маленькімі мінскімі рэчкай і сажалкай, паходжаннем іх нязвыклых назваў Мухля і Турчынка. Гэтыя ды іншыя праекты былі па-свойму адметныя, кожны па-свойму раскрываў абраную тэму – назваць найлепшых сходу было немагчыма.

Урэшце журы (у склад якога ўваходзіў і адказны сакратар «Краязнаўчай газеты» Уладзімір Пучынскі) вызначыла пераможцаў. Першае месца заняла Д. Альхімёнак (расповед пра Сітцы), другое – гімназісты Ягор Пабыванец і Лёша Корнеў (расповед пра Лепель), а трэцяе месца падзялілі Саша Абрамчык, Дзіма Маглюй, Сяргей Шут (з «Кветкамі беларускіх сядзібаў») і «рамантыкі» Алег Салавей, Антон Малевіч, Дзіма Гомза (яны запрасілі ў вандроўку да возера Бяздоннага). Пераможцы конкурсу і ўдзельнікі фіналу атрымалі граматы і падарункі. Граматамі былі адзначаныя і настаўнікі, кіраўнікі вучнёўскіх праектаў – Лізавета Іванаўна Жыдовіч (СШ № 67), Ірына Анатольеўна Мельнікава (гімназія № 50), Людміла Сяргееўна Скапцова, Таццяна Віктараўна Кендыш (СШ № 145), Сяргей Васільевіч Гусеў (гімназія № 15), Ала Рамуальдаўна Сідаровіч (праект СШ № 109 і СШ № 169 аб Паўночным пасёлку ў Мінску і вёсцы Дражня), Ірына Юр'еўна Тамборская (СШ № 211) ды іншыя.

Чарговы конкурс скончыўся. Але засталося спадзяванне, што для многіх ягоных удзельнікаў праца па зборы інфармацыі прадоўжыцца, будзе разрастацца ў іншыя праекты; тым больш – журы не толькі задавала пытанні, але і давала парады, падказвала накірункі пошукаў. Зрэшты, вялікі плён ад працаў ёсць і цяпер. Адзін з праектаў заканчваецца выказваннямі вучняў пра тое, што «пасля прачытання аповеду пра Лепель з'явілася мара пабываць у гэтым цудоўным горадзе, даведацца болей пра яго і пра іншыя мясціны Беларусі». У іншым дзяўчынка піша, што «раней прыязджала ў вёску да бабулі і проста бавіла вольны час, дапамагала па гаспадарцы, гуляла з мясцовымі сяброўкамі; цяпер жа я зацікавілася гісторыяй Сітцаў, сваім радаводам»... Бадай, якраз гэтая зацікаўленасць сваёй гісторыяй, сваім месцам у родзе-племені і ёсць галоўным вынікам конкурсу.

*Лявон ПАЛЬСКІ*

## Аднаўленне духоўнасці



Урачыстае асвячэнне саркафага і пакладанне мошчаў святой Ефрасінні Полацкай адбылося ў Полацку 5 чэрвеня, у дзень памяці нябеснай заступніцы зямлі беларускай. Прайшла цырымонія ў Свята-Крыжа-Узвіжанскім саборы Спаса-Ефрасіннеўскага жаночага манастыра. Аднаўленнем ракі займаўся майстар Мікалай Кузьміч па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Грабніца з'яўляецца дакладнай копіяй той, што была зроблена ў 1910 годзе ў Маскве ў візантыйскім стылі XII стагоддзя па праекце мастака Паўла Зыкава на ахвяраванні вернікаў да дня перанясення мошчаў прападобнай з Кіева-Пячэрскай лаўры ў Полацк.

**На фота 1910-х гадоў:** *срэбная рака з мошчамі святой Ефрасінні ў Спасаўскай царкве.*

## На тым тыдні...

● **7 чэрвеня** ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася **выстава выцінанак «Раскажы, аблачынка...»** члена Саюза майстроў народнай творчасці Вячаслава Дубінкі і яго вучняў з Чачэрскага раёна. Арганізаваная пры падтрымцы французскай асацыяцыі «Спадчына без межаў» (RsF), яна праходзіць у рамках міжнароднай праграмы «CORE» («Супрацоўніцтва для рэабілітацыі ўмоў жыцця ў пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы раёнах Беларусі»). Гэта праграма ініцыіравана ў 2003 годзе Камітэтам па праблемах катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, накіравана на падтрымку мясцовых ініцыятыў і рэалізуецца на тэрыторыі пацярпелых раёнаў. «Раскажы, аблачынка...» з'яўляецца часткай тэматычнага праекта «Практычная радыёлагічная культура, перадача памяці паміж народамі і пакаленнямі».

Дзецям было прапанавана пад кіраўніцтвам прафесійных мастакоў і пісьменнікаў прыдумаць і праілюстраваць казку на тэму «Раскажы, аблачынка...». Галоўным героем стала воблака, што з'явілася над Чарнобылем пасля выбуху. Пад кіраўніцтвам Вячаслава Дубінкі, які з'яўляецца ўдзельнікам і прызёрам шматлікіх міжнародных выставак, юныя майстры стварылі і прапануюць увазе наведвальнікаў свае творы. У экспазіцыю ўвайшлі сорак выцінанак. Вячаслаў Дубінка – адзін з першых, хто ў 1966–1971 гадах адрадзіў гэты цікавы народны від мастацтва – выразанне з паперы. На выставе, якая будзе працаваць да 4 ліпеня, таксама прадстаўлены матэрыялы са збору Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

● **8 чэрвеня** ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася **выстава дзіцячага малюнка «У дружнай сям'і беларускага народа»**, прысвечаная Сусветнаму дню бежанцаў.

Напярэдадні ўжо традыцыйна праводзіўся конкурс дзіцячага малюнка, арганізаваны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь і Прадстаўніцтвам Упраўлення Вярхоўнага Камісара ААН па справах бежанцаў у Рэспубліцы Беларусь.

У конкурсе прынялі ўдзел больш за 1 000 дзяцей з усіх куточкаў Беларусі. На гэтай выставе прадстаўлены самыя цікавыя, на думку журы, працы.

19 чэрвеня адбудзецца ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў конкурсу дзіцячага малюнка і адбудзецца прысвечаны гэтай падзеі гала-канцэрт.

Выстава будзе працаваць да 1 ліпеня.

# Беларускае сяло Неглюбка
## ў гісторыі Прыморскага края Расіі

*(Заканчэнне. Пачатак у № 22)*

Нарэшце, з Адэсы на Уладзівасток, тым жа шляхам, што і параход «Ніжні Ноўгарад», выйшлі яшчэ два параходы Таварыства Добраахвотнага флота: «Расія», на борце якога былі сяляне Чарнігаўскага і Сосніцкага паветаў, і «Пецярбург» – з сялянамі Суражскага і Мглінскага паветаў. Генерал-губернатар Усходняй Сібіры на гэтай падставе піша вайсковаму губернатару Прыморскай вобласці 12 сакавіка 1883 г.: «Из телеграмм моих Ваше Превосходительство известились, что на добровольцах “Россия” и “Петербург”, вышедших из Одессы 4 и 10 марта, отправилась в Южно-Уссурийский край кругосветным путем первая партия переселенцев в числе 1 588 человек. Кроме того, “Петербург” взял на себя еще 12 ходоков от тех семейств, которые войдут в состав второй партии, имеющей отправиться раннею весною 1883 г. (апіска, другая партыя адправілася вясной 1884 г. – Н.Б.). Таким образом, столь желанное для Южно-Уссурийского края переселение не только уже началось, но и благополучно исполнено в первой его части – вызов и отправление переселенцев из Одессы, лежавший на обязанности Министерства Внутренних Дел».

Самаму старэйшаму перасяленцу было 75 гадоў, самым маленькім – паўгода, і нават 3 і 4 месяцы – бо ў далёкі шлях адпраўляліся сем'ямі, забіраючы з сабою і старых бацькоў. У шляху памёр адзін чалавек, нарадзілася пяцёра. «Пецярбург» прыйшоў ва Уладзівасток 20 красавіка 1883 г., «Расія» – 13 красавіка, пакінуўшы на шляху ў Порт-Саідзе 51 хворага; гэтыя людзі пасля былі ўзятыя на параход «Кастрама» і шчасна дасягнулі далёкіх расійскіх берагоў. 24 красавіка 1883 года І.Г. Ба-ранаў адправіў у Іркуцк генерал-губернатару Усходняй Сібіры тэлеграму: «Прибыло переселенцев мужчин 759, женщин 764, семейств 251. Ожидаются оставленные Суэце 3 семьи, по прибытии будет выше нормы 4 семьи».

2 траўня гэтага ж года ва Уладзівасток прыйшоў параход «Кастрама», на якім з Адэсы прыбыў увесь падрыхтаваны для перасяленцаў груз: харчаванне, насенне, матэрыялы (да прыкладу, аўса 1 500 пудоў, пшаніцы 5 000 пудоў, мукі 10 935 пудоў, крупаў 5 468 пудоў, жорны, кавальскія прылады, жалеза для плугоў 500 пудоў, агароднае насенне самае螺знае – адных буракоў два пуды, 1 000 колаў для вазоў, прылады – сякеры, пілы, напільнікі, малаткі, зубілы, абцугі і інш., рыдлёўкі, косы, сярпы, дзвярныя завесы і асялкі; «лазаретные принадлежности» і шмат чаго іншага). Кожная сям'я атрымала бязвыплатную дапамогу ад казны, сярэдні памер якой склаў 496 рублёў і, акрамя таго, выдалі срэбную манету рублёвай годнасці – «на домообзаводство заимообразно». З дазволу Д.Г. Анучына сяляне з часам вярталі за срэбны рубель 1 рубель крэдытнымі – пры тым, што кошт за 1 рубель срэбрам у Прыморскай вобласці быў не ніжэй 1 рубля 50 капеек.

*(Працяг гл. на стар. 7)*





*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Заканчэнне. Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

Шаноўны чытач!

Сёння ў цябе і гэтай рубрыкі «КГ» новая, але адмысловая сустрэча. Як ты, канечне, заўважыў з папярэдняга нумара, матэрыялы надрукаваныя паводле алфавіту ад літары «А» па «Я». Зразумела, ніхто з нас не можа нават падумаць, што адпаведная тэма вычарпаная. Тым не менш, асобныя публікацыі гэтай рубрыкі запыняюцца, але шматлікае сутнаснае з яе будзе прадаўжацца да тых часін, пакуль будуць «КГ» і яе прыхільнікі, падпісчыкі, чытачы, аўтары.

Дазволім сабе напомніць: «КГ» на пачатку 2005 года выступіла з ініцыятывай: а ці трэба табе, шаноўны чытач, асабліва малады, больш ведаць пра нашу *даўніну?* Зразумела, у нас было, ёсць і будзе нямала самых розных матэрыялаў на тэму старажытнасці, але ў тым сваім звароце мы падкрэслівалі *аспект* даўніны – тэматыку краязнаўча-прававой тэрміналогіі беларускай старажытнасці. Радасна сказаць: гэтую задуму горача ўхвалілі як дасведчаныя, навуковыя мэтры, так і юныя, «хто нешта чуў, але мала што пра тое ведае».

Сказаць шчыра, вядучаму гэтай рубрыкі часамі было нялёгка: кожны раз, з № 3 2005 года, прыходзілася шмат працаваць з самай рознай літаратурай, асэнсоўваць прачытанае-перачытанае і выбіраць самае істотна-дакументальнае для невялікага артыкула па пэўнай тэме. Ды хочацца верыць, што «КГ» дапамагла зацікаўленым больш глыбей і паўней (зразумела, найперш з краязнаўчым ухілам) азнаёміцца з нашай featuresнабаковай даўнінай – з геаграфічна-адміністрацыйнымі адзінкамі беларускіх зямель з часоў першага ўпамінання Полацкай і Тураўскай зямель, іхнім і пазнейшым дзяржаўным уладкаваннем, сацыяльна-палітычным жыццём, філасофскай і грамадска-палітычнай думкай, асветай і культурай, з судова-прававой сістэмай і інш. У цэнтры нашай увагі не магло не быць выданне Статута ВКЛ 1588 года ў 1988-м з даўнейшымі тэкстамі (у тым ліку перакладзенымі і на рускую мову), з даведнікам і каментарыямі. І гэта зусім невыпадкова: названы дакумент быў буйнешым зводам законаў ВКЛ, дзейнічаў амаль 250 гадоў, рупна вывучаўся, творча выкарыстоўваўся ўсімі дзяржавамі Еўропы.

Як вядома, на Беларусі, як і ў яе суседзяў, здаўна дзейнічала звычаёвае права – сукупнасць няпісаных прававых норм, якія шанавалі «дзедаўшчыну» і падпраўляліся вярхоўнай уладай (князем, вечам і інш.). Яшчэ каля 540 гадоў таму, з 1468-га, пачаў дзейнічаць пісаны ўжо на беларускай мове, так званы Судзебнік (Статут) Казіміра – першы кодэкс крымінальнага і працэсуальнага права ВКЛ. Пасля гэты кодэкс удакладняўся ў Статутах ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гадоў. Апошні на беларускіх землях быў забаронены царскім урадам у 1840 годзе.

Гэтая забарона была зусім невыпадковая, а хітра прадуманая і на многае разлічаная: з ёю пачала *дакументальна*, адсякацца гістарычная памяць нашага народа. Будучыя яго пакаленні ўжо не мелі магчымасць вывучаць, а значыць, і ведаць, як да нядаўняга называліся на Бацькаўшчыне адміністрацыйныя падзелы розных маштабаў, пасады службоўцаў у іх, судовыя і вайсковыя чыны, грошы, меры вагі, даўжыні, шырыні, глыбіні і вышыні, гаспадарчыя і дзяржаўныя пабудовы, розныя народныя і прававыя даўнія паняцці і г.д., прывучаючыся жыць у *сістэме паняццяў і каштоўнасцяў царскай Расіі.* Пасля, *у савецкі час,* на аснове партыйнай ідэалогіі і нібыта *народнага і адобрывання* была сфармаваная і сцверджаная *новая тэрміналогія*, разлічаная *на масавае ўспрыняцце і далейшае адвучэнне ад гістарычнага і нацыянальнага.*

Сёння, бясспрэчна, усяго з беларускай даўніны ВКЛ не адновіш, паколькі многае само па сабе, як кажуць, адышло ў нябыт, засталося толькі тагачасным гістарычным, краязнаўчым арэалам. Але многае з былой краязнаўча-прававой тэрміналогіі магло б кроўна *пераклікацца* са старажытнасцю, жыць і сёння *(абмова, адправа, варунак, ваявода, вернік, войт, вырак, гарачы ўчынак, гвалт, гетман, грамада, дукат, канцлер, карчма, лаўнік, маршалак, мыта, мястэчка, Рада і радца, талака, харугва, харунжы і інш.*). Трэба быць рэалістам: і выдзеленыя, найбольш зразумелыя і сёння тэрміны, наўрад ці калі вернуцца *ў нас* у дзяржаўна-прававы ўжытак, але веданне іх, як і іншага былога, можа быць менавіта з-за дакументальнай асновы карыснае сучасным вучням, студэнтам, настаўнікам, навукоўцам, гістарычным пісьменнікам.

Як кажуць, а што далей па перыядычным асвятленні асобных і вельмі важных тэм па новых, лепш сказаць, мала вядомых старонках гісторыі і культуры Беларусі? Безумоўна, мы маем нямала сваіх новых задум, хоць не ўсе з іх можам ажыццяўляць цяпер у сувязі з шырокім адлюстраваннем жыццёвага і творчага шляху 125-гадовых Я. Купалы і Я. Коласа. Але і парады нашых чытачоў, аўтараў абавязкова будуць улічаныя. Дык і чакаем Вашага ўзважанага слова.

**_По даручэнні «КГ»_**
**_Генрых ДАЛІДОВІЧ_**

***Асоба ў краязнаўстве***

# Нашчадак першадрукароў з Любчы

***Кніга – лепшы падарунак. Выслоўе гэтае прыгадалася мне, калі атрымаў нядаўна ад вядомага краязнаўца Гродзеншчыны Дзмітрыя Аляшкевіча кнігу «З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны». Яна выдадзена ў Лідскай друкарні да 470-годдзя Воранава і ўяўляе сабою цікавасць для шырокага кола чытачоў.***

Асноўны змест зборніка складаюць матэрыялы навуковай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі, што адбылася ў канцы 2004 года ў мястэчку Радунь. Такое месца для сустрэчы было выбрана невыпадкова: непадалёк ад гарпасёлка знаходзяцца вёскі Нача і Шаўры, з якім звязана навуковая і грамадская дзейнасць такіх знаных людзей, як Вандалін Шукевіч, Станіслаў і Тэадор Нарбуты. Менавіта ў той снежаньскі дзень навукоўцы з Гродна і Мінска пасля пленарнага пасяджэння наведалі Начу і пазнаёміліся з адноўленай па ініцыятыве мясцовых краязнаўцаў Уладзіміра Руля і Івана Фясенкі капліцай-пахавальняй Шукевічаў.

Гісторыка-краязнаўчая канферэнцыя і выданне кнігі з малавядомымі звесткамі аб гісторыі раёна. Усяго дзве падзеі! Але колькі працы і намаганняў спатрэбілася дзеля таго, каб яны адбыліся! І асноўны цяжар тут узяў на сябе Дзмітрый Аляшкевіч, намеснік старшыні Гродзенскага абласнога савета Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Для ажыццяўлення важнай задумы Дзмітрыю Сцяпанавічу не раз давялося пагаварыць з навукоўцамі розных ВНУ аб тэматыцы канферэнцыі, дамовіцца з тымі, хто на ёй выступіць. Не менш клопатаў прынеслі і такія справы, як паездка людзей на Воранаўшчыну, падрыхтоўка матэрыялаў канферэнцыі і інш. Зноў былі камандзіроўкі Д. Аляшкевіча ў тое ж Воранава, у Лідскую друкарню...

Шчыра прызнаюся: я даўно ў захапленні ад мэтанакіраванай і сістэмнай працы Дзмітрыя Сцяпанавіча на ніве краязнаўства. Вышэй расказана аб змястоўнай канферэнцыі і кнізе, якія прысвечаны гісторыі і людзям Воранаўскага раёна. Падобныя ж навуковыя сустрэчы пры актыўным удзеле Д. Аляшкевіча адбыліся ў Навагрудку і Карэлічах, Слоніме і Зэльве, Шчучыне і Ашмянах, у іншых раёнах Прынёманскага краю. А пасля тых канферэнцый выйшлі ў свет адпаведныя зборнікі. Гэта друкаваныя памяткі пачэснай працы апантаных краязнаўствам вучоных і іх нястомных памочнікаў з ліку актывістаў Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Больш за 30 гадоў знаёмы я з Д. Аляшкевічам. У пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя мы працавалі пад адным дахам у Лідзе ў двухпавярховым даваенным доме па вул. Кірава. Я ў газеце «Уперад», Дзмітрый Сцяпанавіч – загадчыкам гарана. Пасля рабочага дня ён часта падымаўся наверх у рэдакцыю. Каб абмяняцца думкамі пра навіны грамадска-палітычнага жыцця, пагуляць у шахматы (піць кавы тады не было моды). Пазней нашы шляхі-дарогі разышліся. Сябра быў на партыйнай рабоце ў Астраўцы, Гародні. Але сустрэчы адбываліся. І па-ранейшаму я адчуваў пад час гутарак яго зацікаўленасць гісторыяй роднага краю. Таму і не здзівіўся, калі пасля адыходу на пенсію Д. Аляшкевіч узначаліў абласную арганізацыю Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. І займеў на гэтай пачэснай пасадзе многа набыткаў. Бо працуе, нягледзячы на шаноўны ўзрост, з маладым імпэтам.

Але адкуль у майго земляка такая цікавасць да выдавецкай дзейнасці? Колькі разоў разважаў аб гэтым і толькі нядаўна прыйшоў да наступнай думкі. Дзмітрый Сцяпанавіч родам са знакамітай Любчы. У гэтым наднёманскім гарадку яшчэ ў XVII стагоддзі працавала друкарня Пятра Кміты. А ў наш час годным нашчадкам тых кнігавыдаўцоў з'яўляецца Дзмітрый Сцяпанавіч Аляшкевіч. І дай Бог яму здароўя і натхнення працягваць высакародную справу многія гады.

*Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ,*
*г. Ліда*

**Ад рэдактара.** ***Даўно ведаю Дзмітрыя Сцяпанавіча Аляшкевіча – яшчэ з даўніх часоў сумеснай партыйнай і грамадскай працы, якая і тады была скіравана ім на захаванне гістарычнай і культурнай спадчыны Гродзеншчыны. Упэўнены, што і сёння Д.С. Аляшкевіч на варце нашай краязнаўчай справы – аховы помнікаў. Таму хачу пажадаць яму моцнага здароўя і ўпэўненасці на шляху абароны помнікаў, асабліва зараз, калі ў самім Гродне наспеў час іх абараніць усім светам, на што гродзенцы былі заўсёды здольныя.***



**_Хутаране_**

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

# Гісторыя побач

У Шацкай сельскай бібліятэцы Пухавіцкага раёна, сталася традыцыяй адзначаць выхад у свет новых кніг па краязнаўстве, прадстаўляць іх у літаратурным клубе «Крыніца», які створаны пры бібліятэцы.

Сябры клуба з зацікаўленасцю сустрэлі 26 мая новую кнігу зямлячкі, настаўніцы мясцовай школы Наталлі Вайцэховіч «Гісторыя побач». Сярод прысутных былі не толькі члены клуба «Крыніца», але і мясцовыя паэты-аматары, ветэраны працы, удзельнікі вайны, яе сведкі, чытачы і сябры бібліятэк, жыхары вёскі.

Загадчыца бібліятэкі Марыя Лапцэвіч адзначыла плённую працу па краязнаўстве ў Пухавіцкім раёне, узгадала імёны тых, хто шмат працуе на ніве краязнаўства: Алесь Карлюкевіч – аўтар шматлікіх кніг і публікацый, Аляксандр Прановіч – дырэктар раённага краязнаўчага музея. На кніжнай паліцы па краязнаўстве ў бібліятэцы з'явілася яшчэ адна кніга Наталлі Вайцэховіч, якая працягвае размову пра гісторыю вёскі і яе людзей. Кніга звязана з дзвюма папярэднімі («Шацк», «Мае землякі»).

Аўтар кнігі, звяртаючыся да чытачоў, падкрэсліла, што неабходна вывучаць гісторыю не толькі сусветную, але і бачыць гісторыю побач. Невялічкая вёска, людзі-старажылы, экспанаты музея, помнікі і памятныя знакі – і ёсць такая гісторыя. Наталля Мікалаеўна пазнаёміла са структурай кнігі, расказала пра карпатлівую працу над ёю.

Удзельнікі прэзентацыі з цікавасцю слухалі ўрыўкі асобных твораў з кнігі, разглядалі фотаздымкі. Гэта быў час вяртання ў далёкае мінулае, у дзяцінства і маладосць, у няпростыя ваенныя і пасляваенныя часы, знаёмства са славутымі землякамі, роздум над сучасным жыццём. На пытанне аб далейшай працы Наталля Мікалаеўна адзначыла, што будзе чакаць выхаду ў свет сваіх новых кніг для дзяцей: «Мае дзіцячыя і школьныя гады», «Падарожжа ў далёкае мінулае», «Вайна вачыма дзіцяці». Удзельнікі прэзентацыі падзяліліся ўражаннямі аб кнізе, нагадалі здарэнні з ўласнага жыцця, чыталі вершы і спявалі песні.

Як хочацца, каб было як мага больш такіх сустрэч і гутарак, такіх кніг, якія дапамагаюць вучыцца, працаваць і жыць, лягчэй пачувацца ў нашым няпростым жыцці.

**_Марыя МІХАЛКОВІЧ,_**
**_в. Шацк, удзельніца клуба «Крыніца»,_**
**_ветэран працы_**

## Наш каляндар



✓ 140 гадоў таму, 14 чэрвеня 1867-га, у г. Рэчыца нарадзіўся **Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі**, прафесар (1902), доктар гістарычных навук (1905), эканаміст, этнограф, заснавальнік беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі. У 1894-м скончыў Кіеўскі універсітэт, з 1902 года там загадчык кафедры. У Харкаве і Баку з 1920, з 1925-га – прафесар БДУ, правадзейны член Інбелкульта, старшыня яго гісторыка-археаграфічнай камісіі. Пасля таго, як абвінавацілі ў «нацдэмаўшчыне», быў вымушаны пакінуць працу і выехаць у Маскву. Выбранне яго акадэмікам АН СССР было заблакіравана, рукапіс кнігі «Гісторыя Беларусі» асуджаны.

Першыя нарысы, што прысвечаны гістарычнаму мінуламу Беларусі, абрадам, вераванням, пачаў публікаваць у канцы 1880-х. Выдаў манаграфіі «Нарыс гісторыі Крывіцкай і Дрыгавіцкай зямель...» (1891), «В.М. Цяпінскі, перакладчык Евангелля на беларускую мову» (1899), «Народная гаспадарка Беларусі, 1861–1914 гг.» (1926). Выдаў таксама «Баркалабаўскі летапіс», «Акты Літоўска-Рускай дзяржавы» (вып. 1), «Дакументы Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі» (т. 1). Вывучаў сялянскае пытанне, дзекабрысцкі рух, грамадскую думку Расіі. У 1919 годзе на беларускай і асноўных еўрапейскіх мовах выдадзены навукова-публіцыстычны нарыс «Асновы дзяржаўнасці Беларусі». У кнізе «Эканамічная геаграфія СССР» (1928) быў надрукаваны яго раздзел «Беларуская ССР і Заходняя вобласць РСФСР». У 1926 годзе завяршыў працу «Гісторыя Беларусі», якая пабачыла свет у 1994-м.

✓ Этнограф, фальклярыст і бібліёграф **Аляксандр Ануфрыевіч Шлюбскі** нарадзіўся 110 гадоў таму 16 чэрвеня ў в. Межава Расонскага раёна. У 1922-м скончыў Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. Удзельнічаў з 1918-га ў арганізацыі архіваў у Віцебску, Оршы, Веліжы, Полацку. У Інбелкульце з 1923 г., Інстытуце гісторыі АН Беларусі з 1929. З'яўляўся збіральнікам беларускага фальклору, склаў у 1919-м інструкцыю па збіранні вуснай народнай творчасці. Даследаваў матэрыяльную культуру беларусаў, старажытныя вераванні. Пісаў артыкулы пра культурна-асветніцкае жыццё Мінска, Віцебшчыны, гісторыю беларускай літаратуры: «Канфіскацыя твораў Дуніна-Марцінкевіча» (1923), «Да гісторыі канфіскацыі "Нашай Нівы"» (1925), «"Мужыцкая праўда" К. Каліноўскага» (1926). Аўтар нарысаў пра М.Я. Нікіфароўскага, З. Бядулю, Е.Р. Раманава, У.М. Дабравольскага. Складальнік бібліяграфічнага даведніка «Матэрыялы да беларускай бібліяграфіі» (т. 4. Этнаграфія, 1927), фальклорнага зборніка «Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны» (ч. 1–2, 1927–1928).

Арыштаваны ў 1930 годзе, высланы ў Ніжні Ноўгарад. Рэабілітаваны ў 1960-м.

# Дзеці Свіслачы

***Свіслацкія дзеці... Колькі іх узнялося тут да жыцця, каб пасля праславіць сябе клопатам пра іншых людзей. Гісторыя школьнага руху ў Свіслачы сягае некалькі стагоддзяў.***

Адным з тых, хто стаўся знакамітым праз сваё сапраўднае чалавечае стаўленне да наваколля, можна з гонарам назваць Івана Майсеевіча Стэльмашонка. Дзякуючы надзвычайнаму працалюбству, настойлівасці і мэтаскіраванасці ён вядомы як выдатны хірург, вучоны, арганізатар і педагог.

Нарадзіўся І.М. Стэльмашонак у сялянскай сям'і ў вёсцы Хімное 17 (30) красавіка 1902 года. У 1922 годзе закончыў Свіслацкую школу. Пасля заканчэння ў 1927-м медыцынскага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў у Мінскім медыцынскім інстытуце. У 1930 годзе быў прызначаны асістэнтам кафедры факультэцкай хірургіі, а ў 1937-м абараніў кандыдацкую дысертацыю і на наступны год яму прысвоілі званне дацэнта.

Працуючы хірургам-практыкам шырокага профілю, Іван Майсеевіч займаў шэраг адміністрацыйных пасад: дырэктар школы медыцынскіх сясцёр, дэкан санітарна-гігіенічнага факультэта і намеснік дырэктара па навуковай працы Мінскага медыцынскага інстытута, загадчык аддзела аховы здароўя г. Мінска, начальнік Упраўлення навучальных устаноў Наркамздрава БССР, дырэктар навукова-даследчага інстытута пералівання крыві.

Вядомы яго многія метадычныя распрацоўкі па хірургіі для лячэння хвароб страўніка, тонкага кішэчніка, тоўстага кішэчніка. Ён навукова даказаў і клінічна засведчыў высокую эфектыўнасць хірургічнага лячэння пераломаў трубчатых костак з дапамогай распрацаваных ім метадаў астэасінтэза.

У гады Вялікай Айчыннай вайны І.М. Стэльмашонак, будучы галоўным хірургам эвакашпіталяў у Чувашскай ССР і Кіраўскай вобласці, лячыў параненых. Пасля вайны загадваў кафедрай шпітальнай хірургіі, цягам сямі гадоў працаваў на пасадзе рэктара Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Яго незвычайныя арганізацыйныя здольнасці спалучаліся з бачаннем перспектыўнага, новага. Так, у 1956 годзе ён дабіваецца выдзялення з агульнай хірургіі 1-й клінічнай бальніцы Мінска дзіцячага аддзялення, што садзейнічала паляпшэнню вынікаў лячэння маленькіх пацыентаў. У наступныя гады аддзяленне стала цэнтрам развіцця дзіцячай хірургіі ў Беларусі. Пад непасрэдным кіраўніцтвам Івана Майсеевіча многія беларускія хірургі прайшлі школу дзіцячай хірургіі.

Фармальна не маючы звання доктара медыцынскіх навук, ён паспяхова кіраваў кафедрай шпітальнай хірургіі і падрыхтаваў 18 кандыдатаў медыцынскіх навук. Педагагічны талент І.М. Стэльмашонка выяўляўся і пад час клінічных абходаў, дзе можна было ўпэўніцца ў яго гуманным стаўленні да хворых і выдатным клінічным мысленні. Ён прывіваў сваім калегам пачуццё асабістай адказнасці за лёс пацыентаў.

Наш краязнаўчы музей мае успаміны І.М. Стэльмашонка, якія ўражваюць сваёй шчырасцю. Чытаем і перачытваем іх з дзецьмі, захапляючыся адданасці роднай зямлі, уяўляем ягонага бацьку-франтавіка, калі ён пасля паўтара гады ростані (ваяваў на Першай сусветнай), сустрэўся з сынам на толькі што самастойна ўзаранай баразне:

*«Седзячы на баразне, бацька коратка распавёў мне пра тое, што давялося перажыць у салдатах, і скончыў аповед словамі: "Неадукаваны, як сляпы – усе цябе папіхаюць, б'юць нават, а ты і не пярэч". Потым, хвілю падумаўшы, скончыў словамі: "Вучыся, сынок, я прадам сваю апошнюю кашулю, каб дапамагчы табе". Я з разуменнем паглядзеў на бацьку, моцна пацалаваў упершыню ягоную напрацаваную руку, чым выказаў сваю падзяку. Гэтым я даў клятву, што буду вучыцца. Тут, на першай вясновай баразне, з парады бацькі, які сядзеў побач у шэрым салдацкім шынялі, вырашаўся мой далейшы лёс. Гэты момант я захаваў у памяці як самае дарогае, што было ў маім жыцці...*



Браты Стэльмашонкі, ганаровыя грамадзяне гарадоў: Ілля Майсеевіч (Горкі), Іван Майсеевіч (Асіповічы), Сямён Майсеевіч (Чэрвень)



Іван Майсеевіч з бацькам (1920-я гг.)

*Найбліжэйшай ад Хімнага была школа ў мястэчку Свіслач. Бацька даведаўся, як можна паступіць туды, бо школа называлася Вышэйшай пачатковай вучэльняй, і што прымаюць туды пасля іспытаў.*

*Апроч мяне жаданне вучыцца выявілі яшчэ тры хлапчукі. Мы пачалі рыхтавацца па падручніках, якімі карысталіся ў Холаўскай школе (І. Стэльмашонак сённяшнюю вёску Ліпень называе мястэчкам Хола, але не Халуй, як мяркуюць сучаснікі. – Н.С.).*

*1 кастрычніка 1917 года пачаўся навучальны год. Былі складанасці з жыллём. Спярша мы пасяліліся ў адзінокага старога (бабыля), які жыў у старэнькай маленькай хаціне. Потым бацькі знялі нам пакойчык у местачковага яўрэя.*

*У так званай Вышэйшай пачатковай вучэльні нам усё было нязвыклае, пачуваліся вельмі нясмела. Тут было шмат вучняў з мястэчка Свіслач, якія паводзілі сябе па-хатняму, смела і з выклікам. Сярод вучняў былі дзеці хутаранцаў і шляхты, якія на правах багатых таксама паводзілі сябе з выклікам. Нас, дзяцей бедных сялянаў, і свіслачане, і дзеці багацейшых не хацелі прымаць у свае карпарацыі. У тым была пэўная карысць для нас, даючы магчымасць больш займацца і лепей вучыць урокі, чым заваявалі сімпатыі настаўнікаў.*

*У 1920 годзе Свіслацкая вучэльня была рэарганізаваная ў школу 2-й ступені, г.зн. у сярэднюю навучальную ўстанову, якая давала права паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы.*

*У час навучання ў школе я амаль кожную нядзелю быў дома (прыходзіў па прадукты). Жыў дома пад час летніх і зімовых вакацыяў, дапамагаў бацьку па гаспадарцы. Бацька, маці, сёстры і браты заўжды былі задаволеныя і надавалі мне шмат увагі. Яны былі радыя маім поспехам у вучобе і шчыра жадалі, каб я працягваў навучанне пасля заканчэння гэтай школы. Таго ж хацеў і я».*



Ул. Стэльмашонак. «Асветнікі: Скарына, Будны, Мсціславец; Федаровіч» (карціна захоўваецца ў ГА «БФК»)

Успаміны І.М. Стэльмашонка ў розныя гады перадавалі ў школу яго родныя. Іван Майсеевіч – ганаровы грамадзянін г. Асіповічы. Да месца будзе сказаць: яго браты таксама ганараваны. Ілля Майсеевіч – у горадзе Горкі і Навапскове (Украіна), Сямён Майсеевіч – у Чэрвені.

Заслугі І.М. Стэльмашонка перад Беларуссю адзначаны не толькі ордэнамі і медалямі, але і званнем заслужанага ўрача БССР.

У Івана Майсеевіча такія ж працалюбівыя дзеці: сыны Уладзімір Іванавіч – мастак, Леанід Іванавіч – інжынер-будаўнік, Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, дачка Яўгенія Іванаўна – кандэдат медыцынскіх навук, дацэнт. Не так даўно Я.І. Бальшова папоўніла матэрыялы музея. Сяброўства са Свіслаччу дзяцей І.М. Стэльмашонка даволі працяглае. Замацавалася яно агульным жаданнем стварыць у месцы зліцця Свіслачы з Бярэзінаю цэнтр экалагічнай эстэтыкі, у якім бы, акрамя ўсяго, ладзіліся і выставы карцін знакамітых мастакоў для тысяч дзяцей Беларусі, якія штогод папраўляюць сваё здароўе ў дзіцячым санаторыі «Свіслач». З зацікаўленасцю быў успрыняты распавед пра экалагічны турыстычны маршрут «Шляхам Рагнеды», які ствараюць дзеці Беларусі. У маршрута ўсе перспектывы стаць міжнародным. Уладзімір Іванавіч паабяцаў папрацаваць над стварэннем уласнага вобраза няскоранай князёўны – адважнай патрыёткі, якая і ёсць сімвалам нацыянальнай ідэі, сімвалам душэўнай прыгажосці, сімвалам жаночасці і мацярынства.

Цяпер мастак Ул.І. Стэльмашонак, нягледзячы на свой узрост, адчувае незвычайны прыліў сіл: нядаўна ён стаў ганаровым грамадзянінам Асіповіцкага раёна. Атрыманы ад бацькаўшчыны энергетычны запал дае яму творчае натхненне ў працы, што толькі пацвярджае прыналежнасць да каранёў, якія мае зямля Асіповіцкага краю, жывячы кожнага, хто жадае шчаслівай долі сваім блізкім і сабе.

***У Асіповічах напрыканцы 2006 года гасцінна адчыніла дзверы карцінная галерэя народнага мастака БССР Уладзіміра Іванавіча Стэльмашонка. Істотна, што карціны Майстра – не столькі ўшанаванне вядомых свету гістарычных асобаў, колькі праслаўленне Радаводу, непасрэднае дачыненне да якога мае род Стэльмашонкаў. І няма тут ніякага дзіва – заслужылі!***

*Ніна САКАВА,*
*загадчык школьнага краязнаўчага музея Свіслацкай СШ Асіповіцкага раёна*

*(Здымкі з сямейнага альбома Ул. Стэльмашонка)*







# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–21)*

4 снежня паэт прыбывае ў паўночную сталіцу, селіцца на кватэры Эпімаха-Шыпілы, некалькі гадоў мае не толькі прытулак, але і харч ды кішэнныя грошы, і паступае на агульнаадукацыйныя курсы А. Чарняева. Б. Эпімах-Шыпіла шчыра і высакародна паспрыяў Янку Купалу стаць «героем не на час, а на ўсё жыццё».

## У Пецярбургу

**1910 год**

Мабыць, можна ўявіць, з якімі думкамі і пачуццямі Янка Купала – 27-гадовы халасцяк, ужо прызнаны паэт, але безграшовец і бескватэрнік – напярэадні, у снежні, сядзеў у цягніку, пазіраў у акно, пакідаў прыхільную да яго сярод свядомых беларусаў і варожую сярод чарнасоценцаў Вільню і падаваўся ў Пецярбург. З аднаго боку, было шкада пакідаць знаёмае асяроддзе, а з другога – ён ехаў у імперскую сталіцу і дзе ён шчасліва пазбягаў няшчаснай долі быць адзінокім і нікому там непатрэбным чалавекам. Яго там ведалі і чакалі землякі.

Яшчэ раней там яго прапагандаваў публіцыст і крытык Ул. Самойла (1878–1941?), які памог яму надрукаваць першы верш і выдаць першую кнігу, там яго чакаў Б. Эпімах-Шыпіла (1859–1934), з 1891 года супрацоўнік бібліятэкі Пецярбуржскага універсітэта, мовазнавец і выдавец, які падмеўся не толькі закватэрыць земляка, але і сталаваць яго ды яшчэ даваць грошы на кішэнныя выдаткі (ён прынясе таксама неацэнную паслугу паэту і беларускай літаратуры і тым, што ў сваім архіве захавае каля 70 ненадрукаваных Купалавых дарэвалюцыйных вершаў, многія з якіх пабачаць свет толькі ў 1920-х). Там Купалу чакалі апекаваныя Эпімахам-Шыпілам студэнты-беларусы. Да слова, «Наша Ніва» за чэрвень 1909 года паведамляла, што яны на адной са сваіх вечарын-ігрышчаў захоплена чыталі і вершы з «Жалейкі», а сярод песень саспявалі і «Песню над калыскай» рускага кампазітара А. Грачанінава, які любіў апрацоўваць беларускія народныя песні.

Як вядома, шчырыя да Купалы віленцы адправілі яго ў Пецярбург, каб ён памяняў побытавую атмасферу і заадно павысіў сваю адукацыю на агульнаадукацыйных курсах А. Чарняева – былога валагодскага селяніна, швейцара адной з пецярбуржскіх гасцініц, самавука, настаўніка, слухача дзвюх вышэйшых навучальных установаў, а потым вучонага, які рашыў за набытыя сродкі памагчы адукавацца і іншым сялянскім самародкам. Купалу быў шанец вывучаць Закон Божы, рускую мову і літаратуру, гісторыю, геаграфію, хімію, геалогію, батаніку, анатомію, біялогію, заалогію, заканадаўства, логіку, псіхалогію, этыку, матэматыку і інш. Як бачым, для здольных, але малаадукаваных навучэнцаў быў шырокі спектр набыцця разнастайных пачатковых ведаў, каб пасля абраць любімы накірунак і ісці далей па лініі развіцця.

Сапраўды, для Купалы настае новы і, галоўнае, якасны перыяд: ён вучыцца, жыве напоўненым жыццём беларускага зямляцтва (у лютым знаёміцца з Цёткай, якая высока ацаніла яго), шмат піша, і ў маі «Наша Ніва» пачынае ўжо друкаваць тое-сёе з яго пецярбуржскага цыклу.

***Ва ўсе часы ў лёсе кожнага мужчыны вялікую ролю адыгрывае жанчына – найперш маці, а пасля і жонка, каханка... У лёсе творцы – асабліва.***

***Да нядаўняга часу ў беларускай эсэістыцы, у літаратуразнаўстве была асцярога пісаць пра асабістае, інтымнае ў біяграфіі нават нашых класікаў, а між тым гэта вельмі цікавы даследчы зрэз: жанчыны і Купала, ... і Колас, ... і Багдановіч. Як бы мы іначай зірнулі на іхнюю творчасць – скажам, на вобраз Ядвіські ў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях»!***

***Давайце напачатку бліжэй пазнаёмімся з асобай Коласавай жонкі са слоў іхняга старэйшага сына.***

# «І дзе знайсці мне тыя словы...»

## Успаміны пра маму

Першыя ўспаміны пра маму прыпадаюць на 1918–1920 гады. Ішла грамадзянская вайна. Тады мы жылі на Куршчыне – спачатку ў горадзе Абаянь, пасля ў вёсках Ліпавец, Якаўлеўка, непадалёк ад Абаяні. Бацькі працавалі настаўнікамі ў сельскіх школах. Жылося вельмі цяжка, не было хлеба. Але матчына цеплыня, любоў згладжвалі цяжкі побыт.

У той час лютавала эпідэмія грыпу, які тады называлі «іспанкай». Неяк захварэла мама, а бацькі не было дома. Памятаю, як зусім знясіленая хваробай і голадам мама апусціла на падлогу школьную дошку, паклала на яе мяне і майго меншага брата Юрку і сама, зняможаная, легла з намі. Прыйшоў бацька, пабачыў нас у такім стане і заплакаў. Кінуўся ратаваць, нешта варыць, каб накарміць хворую жонку і бездапаможных дзяцей.



*Марыя Дзмітрыеўна (1912)*

Мама нарадзілася 8 лютага 1891 года ў Ашмянах у сям'і святара Дзмітрыя Аляксандравіча Каменскага. У яе было пяць братоў і адна сястра, якая памерла ў маладыя гады. Усе яе браты, мае дзядзькі – Іван, Васіль, Міхаіл, Мікалай, Аляксандр – былі людзьмі працавітымі, поўнымі дабрыні і спагадлівасці да іншых.

Дзяўчынкаю маме давялося вучыцца ў духоўным вучылішчы. Руская па нацыянальнасці, яна дасканала ведала і любіла беларускую мову, якая стала для яе роднай. Многім даказвала, што беларуская мова захавала больш ад старажытнаславянскай асновы, чым руская. У доме гаворкі вяліся пабеларуску, і яна часам папраўляла нас у сэнсе правільнага вымаўлення слоў. Маці ведала шмат нашых народных песень, часам спявала. Памятаю: «Ой, зацвіла ружа, белы цвет». Язэп Лёсік нярэдка прасіў, каб яна выканала песню «З гары па даліне галубы ляталі». Сардэчна і чула да яе ставіліся Янка Купала, Максім і Гаўрыла Гарэцкія, Змітрок Бядуля, Аркадзь Смоліч, Алесь Сянкевіч і, па сутнасці, усе, хто бываў у нас і сустракаўся з ёю.

Яна была чалавекам, поўным любові да людзей, вельмі сціплай, нават самаахвярнай. Мама з вялікай любоўю і пяшчотай ставілася да нас, сваіх дзяцей, вучыла нас быць добрымі, сумленнымі, працавітымі. Нам пашчасціла ў тым, што ў бацькоў ніколі не было сварак, лаянкі, што ў нашай сям'і заўсёды панавала атмасфера любові і дабрыні. Якое ж гэта шчасце! Яго, тое шчасце, найперш стварала наша мілая мама. Калі хто з нас хварэў, не было лепшага лекара, як яна. І догляд, і смачная ежа, хатнія, няхай дзедаўскія прыёмы і спосабы лячэння, цёплыя, спагадлівыя словы вельмі спрыялі хуткай папраўцы.

Дом наш быў вельмі гасцінны, хоць і не так ужо часта даводзілася збіраць гасцей. Для гэтага не хапала часу. Бацька вельмі многа і напружана працаваў, не любіў бавіць час на дробязі. Але ўсё ж адзначаліся сямейныя ўрачыстасці, дзяржаўныя і народныя святы. Бывалі дарагімі гасцямі Янка Купала, іншыя беларускія пісьменнікі, іх калегі з Масквы, Украіны, Грузіі. Маці была вельмі добрай гаспадыняй. Умела рабіць многа смачных страў, у тым ліку і нашай беларускай кухні. Самаробныя паляндвіца, каркавіна, сялянскія каўбасы, зельцы, крывяныя каўбасы, кумпякі вэнджаныя, вараныя і запечаныя, калдуны, зразы, верашчака, дранікі, бульбяная бабка, булён з грыбнымі вушкамі, вінегрэт, грыбы марынаваныя і салёныя розных гатункаў і спосабаў засолкі. А колькі ўсяго рыбнага, птушынага, з дзічыны! І ўсё зроблена па-майстэрску, па-свойму. Помняцца і смачныя кандытарскія стравы: цыганскі мазурак, пасха, ламанцы, хруст, торты, цукаты. Часам пасля салодкага стала гасцям прыносілі ў прыгожым посудзе ачышчаныя вараныя яйкі. Людзі былі здзіўлены – хто ж гэта будзе есці пасля багатага застолля і смачных салодкіх страў? А гэта быў сюрпрыз: у яйках праколваліся дзіркі, выдзімаліся бялок і жаўток, а туды залівалася салодкая духмяная маса з дабаўкамі жэлаціну. Яна застывала, шкарлупінне абдзіралася, бланманжэ нагадвала вараныя яйкі і было вельмі смачным.

Хатняя праца і цяпер лічыцца нялёгкай. А ў тыя часы не было ні газавых пліт, ні халадзільнікаў, ні пральных машын. Верхам бытавой тэхнікі з'яўляліся забытыя цяпер прымус і керагаз. Для таго, каб у доме быў парадак, даводзілася многа працаваць. І хаця ў доме была хатняя работніца, усё роўна мама заўсёды многа і нястомна працавала. І калі яе памочніца забывала нешта зрабіць або рабіла не так, ніколі не было папрокаў ці незадавальнення. Проста мама сама моўчкі рабіла так, як трэба.

***Даніла МІЦКЕВІЧ***

***(Заканчэнне будзе)***

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–21)*

*30 верасня* ў «Нашай Ніве» з'яўляецца рэцэнзія малавядомага А. Бульбы на зборнік «Песні жальбы». Пазнейшыя даследчыкі ацанілі яе невысока за тое, што яна «носіць вельмі апісальны характар, мала ў ёй вывадаў і абагульненняў» (С. Александровіч), але і ў такім выглядзе ў ёй было галоўнае – захопленая чытацкая ацэнка: «Колас, апяваючы смутак палёў ці маркоцячыся з-за астрожных сцен, ані на момант не адрываецца ад роднага краю, ад свайго народа; ён не сам церпіць за сябе, ён церпіць за мільённы народ, і гэта цярпенне родзіць у ім веру: мучыцца, у такой беднасці жыве ні адзін чалавек, а мільёны, і іх цярпенне ўжо не слабы шэпт, а голасны стогн». Пазней, да слова, у 1913-м, калі чарнасоценныя віленскія выданні разгорнуць новую крытычна-публіцыстычную варожую атаку супраць беларускасці, да «Песень жальбы» знойдуцца нечаканыя «заступнікі»: маўляў, Я. Колас выхаваны на рускай літаратуры, мае паэтычны дар і «невольно приходишь к заключению, что "Песні жальбы" есть произведения русские, и много было бы ценнее, если бы "Наша Нива" их не исковеркала своей грамматикой и тем самым не вводила бы читателей в заблуждение...» («Виленский вестник» № 3029; працытавана М. Мушынскім у кнізе «Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1982). Безумоўна, сам Я. Колас не прымаў такіх «сяброў».

*Лістапад, 7.* Адзін з беларускіх настаўнікаў у верасні 1910-га дасылае М. Горкаму «Жалейку» Я. Купалы і «Песні жальбы». Той, азнаёміўшыся з гэтымі зборнікамі (пра беларускую гісторыю і культуру М. Горкі нямала ведаў ад бацькі М. Багдановіча, паколькі Аляксей Максімавіч і Адам Ягоравіч адзін час былі жанатыя з сёстрамі), у лісце да М. Кацюбінскага напіша: «... У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала – вельмі цікавыя хлопцы! Так прымітыўна-проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра. Нашым бы трошкі такіх якасцей! О божа! Вось добра было!» У тым жа месяцы М. Горкі ў лісце да А. Чарамнога яшчэ ўважыць нашых песняроў: «Ці ведаеце вы беларускіх паэтаў Якуба Коласа і Янку Купалу? Я нядаўна пазнаёміўся з імі – падабаюцца! Проста, задушэўна і, відаць, сапраўды – народна». Аўтар гэтых лістоў зусім не выпадкова падкрэсліваў прастату, народнасць вершаў беларускіх паэтаў: у той час многія рускія паэты адышлі ад гэтага, захапіліся рознымі сімволіка-дэкадэнцкімі практыкаваннямі, што М. Горкаму, прадстаўніку класічнай рускай літаратуры, не зусім было да спадобы.

Як не наракаў Я. Колас, што ў турме яму няма належных умоў для творчасці, але ўсё ж ён здолеў за 1910 год, як і ў папярэдні, напісаць звыш паўсотні вершаў, якія былі надрукаваныя ў «Нашай Ніве» ці пазней у іншых выданнях, у тым ліку ўпершыню і ў 1920–1930 гады. У астрозе яму прыйдзецца яшчэ быць да верасня 1911-га.

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





# Светлы жыццёвы ўзор

*Адольф Янушкевіч (1803–1857) – вандроўнік, пісьменнік, выгнаннік. Старэйшы сын Міхала Янушкевіча і Тэклі з Сакалоўскіх. Апроч яго, знанымі ёсць і браты: Еўстахі – выдавец у эміграцыі, і Рамуальд-Тавяньчык. Патрыятызм у сям'і ішоў ад маткі Тэклі, якая была ўнучкай роднай сястры Тадэвуша Касцюшкі Ганны. Адольф нарадзіўся ў Нясвіжскім палацы, бо ягоны бацька стала служыў у Радзівілаў і з'яўляўся даверанай асобай Міхала Гераніма Радзівіла, які і хрысціў Адольфа Міхала Валяр'яна Юльяна. Дзіцячыя гады правёў у маёнтку Усаве ля Капыля. Вучыўся ў Вінніцкай гімназіі, у 1821-м паступіў у Віленскі універсітэт на літаратурнае аддзяленне. У гэтым жа годзе Янушкевічы набылі маёнтак Дзягільна ў чатырох кіламетрах ад Койданава. Належаў да Блакітнага брацтва філарэтаў. Працаваў дэпутатам у Галоўным судзе ў Камянцы на Падоллі. У 1829–1830 гадах вандраваў па Еўропе. У Рыме Адольф сустракаўся з землякамі – філаматамі Адамам Міцкевічам і Эдвардам Адынцом (пазней, у 1832-м, у Дрэздэне, Міцкевіч выведзе Адольфа ў III частцы «Дзядоў»). Толькі пачуўшы першы подых Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гадоў, Адольф прымае ў ім чынны ўдзел. Светлы духам змагаўся супраць цёмных сіл і паспеў зрабіць найбольшае, жыццёва неабходнае для Айчыны: ён натхніў Юльяша Славацкага на напісанне «Песні Літоўскага легіёна», што магла б стаць гімнам, каб была перамога.*




У час паўстання Адольф быў адным з кіраўнікоў Літоўска-Валынскай Легіі, у сакавіку 1831-га быў паранены і трапіў у няволю. У часе следства паказаў моц духу, абвясціўшы: «Калі што і зрабіў, то зрабіў свядома, па ўласнай волі, з непахісным перакананнем». Гэтыя словы ў расійскіх архівах знайшла казахская даследчыца Фаіна Сцяклова, якая прыязджала да нас ў Дзягільню ў 1978 годзе. Вялікі дзякуй за гэта жанчыне, якая, на жаль, ужо пераступіла зямную рысу...

Адольф заплаціў за свае словы напоўніцу: сасланы ў Сібір ў 1832 годзе, вярнуўся на Айчыну толькі ў 1856 м. У высылцы вандраваў па стэпах (цяперашні Казахстан); ён першы, хто абараніў культуру казахскага народа. Верыў, што прыйдзе час, калі і гэтыя качэўнікі, уважаныя ўсім светам за «дзікіх і варварскіх», зоймуць пачэснае месца сярод люду. За ўклад у вывучэнне культуры казахаў Адольфа Янушкевіча шануюць як народнага героя Казахстана, яго імем названа вуліца ў Алма-Аце.

У 1856 годзе вялікімі намаганнямі Адольф здолеў вярнуццца ў Дзягільню да маці і брата. Тут ён памёр 18 чэрвеня 1857 года, дзе і пахаваны.

У 1861 годзе ў Парыжы браты Адольфа Еўстахі і Рамуальд выдалі «Zywot Adolfa Januszkiewicza i jego Listy ze stepow Kirgiskich» у 2-х тамах. У 1 томе змяшчалася біяграфія Адольфа, падрыхтаваная Феліксам Вратноўскім, у 2-м – дзённікі і лісты з падарожжа па Казахстане (1846). Дзённікі з'яўляюцца працай Адольфа па вывучэнні побыту і культуры казахаў. У 1875-м гэтая кніга была перавыдадзена ў Берліне. У 1966 годзе выйшаў расійскі пераклад Фаіны Сцякловай «Дневники и письма из путешествия по казахским степям», у 1979 – казахскі пераклад. Цяпер у Польшчы падрыхтавана новае выданне «Listow ze stepow Kirgiskich». Найперш кніга прызначалася для сям'і і сяброў Адольфа, але ўжо ў перавыданні 1875 года ў прадмове Еўстахі выказвае надзею, што Адольфава спадчына будзе мець каштоўнасць для ўсяго грамадства. І цяпер настаў такі час.

Да 200-годдзя з дня нараджэння Адольфа Янушкевіча ў Польшчы была выдазена кніга «Listy z Syberii» (Warszawa, 2003), што ўтрымлівае лісты Адольфа за ўвесь час высылкі (1832–1856). У прадмове Януша Пенёнжыка да гэтай кнігі пададзена сціслая біяграфія Адольфа Янушкевіча, складзеная на падставе працы Фелікса Вратноўскага «Zywot Adolfa Januszkiewicza» і дапоўненая матэрыяламі Фаіны Сцякловай з расійскіх і Яна Трынкоўскага з польскіх архіваў.





**P.S.** *У вёсцы Дзягільні, на Койданаўшчыне, мы з дачкой Веранікай адшукалі магілу ўдзельніка Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гадоў Адольфа Янушкевіча. Надта хацелі б з цягам часу паставіць помнік нацыянальнаму герою нашай радзімы. Адгукніцеся, добраахвотнікі! (Кантактныя тэлефоны ў рэдакцыі.).*

Маючы здольнасці для шляхетнага пісьменства, Адольф свядома саступаў дарогу сябрам – Адаму Міцкевічу, Юльяюшу Славацкаму... Адольф Янушкевіч быў праўдзівым шляхціцам, напоўненым духоўнасцю келіхам. Але калі чалавек зробіць дзеля Бога хоць на мезенец, Бог аддасць яму ў стократ болей. Так сталася і тут. Пісьменніцкі талент Адольфа Янушкевіча напоўніцу выявіўся ў ягоных «Лістах з Сібіры», якімі ён радаваў маці, братоў, сясцёр, сяброў. Думаем, што некалі з'явіцца Адольфава кніга ў перакладзе на нашую мову, бо гэта – найперш нашая спадчына.

У «Лістах» Адольф расказвае пра сваё жыццё ў Сібіры. У Ішыме ён меў дамок, які стаў культурным асяродкам выгнаннікаў. Тут Адольф сабраў цэлую бібліятэку з кніг, дасланых з радзімы. Тут Адольф пазнаёміўся з паэтам Густавам Зелінскім, такім жа выгнаннікам, як і ён, які па смерці Адольфа ўладкоўваў ягоную спадчыну.

А была ў яго і кароўка. Піша маме пра згубу сваёй «mlekodawczyni», а пасля – пра нечаканае яе вяртанне. Можна ўявіць, якой радасцю былі для маці лісты сына!

Так спакойна і радасна і заўсёды ў працы Адольф прымаў усё тое, што выпадала на яго долю. Таму сёння мы маем гэткі светлы жыццёвы ўзор Адольфа Янушкевіча.

*Ганна МАТУСЕВІЧ,*
*Койданава*



***Цяністая вулка Жыровічаў***

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

*Гонар і слава*

## Выпрабаванне лёсам

### Да 115-годдзя памяці І.Д. Чэрскага

***Больш за тыдзень у раённым Доме культуры працавала выстаўка, прымеркаваная да 115-годдзя памяці геолага, географа, даследчыка Усходняй Сібіры Івана Дзяменцьевіча Чэрскага, арганізаваная па матэрыялах фонду Валынецкага краязнаўчага музея. Жыхары і госці Верхнядзвінска знаёміліся з экспазіцыяй, матэрыяламі аб жыцці і дзейнасці вучонага, яго апошняй экспедыцыяй, калекцыямі мінералаў і горных парод, сабраных даследчыкам і, вядома, з цікавасцю глядзелі фільм аб возеры Байкал, зняты сібірскімі дакументалістамі і прысланы ў падарунак Валынецкаму краязнаўчаму музею.***

– Музей, – сказала яго дырэктар Надзея Сасноўская, – быў створаны на базе аднайменнага музея ў вёсцы Свольна, які існаваў з 1978 года, а ў 1995 па ініцыятыве настаўніка гісторыі мясцовай школы, стваральніка і адначасова яго кіраўніка Б. Шымука і беларускага геаграфічнага таварыства музею быў нададзены статус дзяржаўнага. Да выхаду на заслужаны адпачынак Барыс Піліпавіч з'яўляўся яго нязменным дырэктарам. Разам з вучнямі Валынецкай дзесяцігодкі, куды пераехаў музей, збіраў і сістэматызаваў матэрыялы аб жыцці і дзейнасці Чэрскага, які нарадзіўся ў маёнтку Свольна Дрысенскага павета Віцебскай губерніі, папаўняў музейныя фонды, друкаваў артыкулы аб ім у мясцовай раённай, абласной і рэспубліканскіх газетах.

Надзея Ананьеўна паведаміла таксама, што І. Чэрскі – з шэрагу паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, схоплены на тэрыторыі нашага раёна, пазбаўлены дваранскага тытула. Калі адбыў ссылку ў далёкім Омску, стаў даследчыкам Сібіры, склаў першую геаграфічную карту ўзбярэжжа Байкала, што на школьным глобусе пазначана: «Хрыбет Чэрскага»...

– Калі Іван Дзяменцьевіч, жывучы ў Омску, заняўся вывучэннем Сібіры, – працягвала пачатую размову захавальніца фондаў музея географ Ірына Пятрова, – верным дарадчыкам у гэтай нялёгкай і карпатлівай справе стала для яго жонка – Маўра Паўлаўна. Безліч таёжных сцежак прайшлі яны разам па сібірскай і далёкаўсходняй зямлі. Верны таварыш і паплечнік была з ім і ў падарожжы на самаробнай лодцы па Калыме, у час якога вучоны захварэў і памёр. Маўра Паўлаўна пахавала яго на беразе ледзяной Калымы, давяла пачатую мужам справу па даследаванні далёкай і непрыветнай ракі да канца, усе сістэматызаваныя матэрыялы даставіла ў Расійскую акадэмію навук.

Гэта толькі невялічкая частачка з таго, што паведамілі дырэктар Валынецкага краязнаўчага музея Н. Сасноўская і захавальніца музейных фондаў І. Пятрова. Пабывайце ў музеі – і вы нашмат станеце багацей і маральна, і духоўна, акунецеся ў атмасферу тых далёкіх часоў.

***Эдуард ЗУБРЫЦКІ,***
***пісьменнік, журналіст,***
***г. Верхнядзвінск***





# Беларускае сяло Неглюбка

## ў гісторыі Прыморскага края Расіі

*(Заканчэнне. Пачатак у № 22)*

На жаль, не абышлося без страт – ва Уладзівастоку саслабелыя марскім пераходам людзі былі затрыманы на два месяцы з-за карантынных мерапрыемстваў і да арганізацыі перамяшчэння на месцы пасялення; і за гэты час з-за цеснаты і антысанітарыі ў бараках, дзе месціліся па 84 чалавекі, памерла ад халеры, ліхаманкі і страўнікавых захворванняў 17 чалавек, у тым ліку 11 дзяцей (Ю.В. Аргудяева. Указ. соч. Стр. 151).

Аддамо належнае мужнасці тых, хто не спалохаўся зрабіць крок у новае жыццё, хто нёс славянскую культуру ў далёкі край. І ўпершыню назавем іх імёны.

У канчатковым падрахунку ў с. Іванаўка пасяліліся 24 сям'і (у пераліку паказаны на 21 лістапада 1883 г. раздзелы сем'яў і колькасць чальцоў сям'і, уключаючы гаспадара): *Барсукоў Лаўрэнцій* – 4, *Герасімёнак Гаўрыіл* – 8, *Герасімёнак Сямён* – 7, *Грынькоў Платон* – 6, *Карпянок Філіп* – 6, *Крацянок Еўдакім* – 9, *Крацянок Тарас* – 5, *Крацянок Якаў* – 3, *Мельнікаў Афанасій* – 4, *Мельнікаў Дарафей* – 11, *Мельнікаў Карней* (у іншым спісе паказаны як Кірэй) – 5, *Мельнікаў Мацвей* – 5, *Мельнікаў Пётр* – 4, *Мельнікаў Фядот* – 6, *Мельнік Еўстрат* (у іншым спісе паказаны як Яўстафій) – 7, *Асіпёнак Еўдакім* – 2, *Асіпёнак Міхаіл* – 3, *Петрашонак Карп* – 6, *Прыходзька Ларыён* – 7, *Прыходзька Нестар* – 5, *Прыходзька Ціт* – 6, *Раманчанок Ягор* – 8, *Суглобаў Сава* – 6, *Шэвялёў Сямён* – 2;

У с. Мікалаеўка пасялілася 33 сям'і: *Біклага Ерамей* – 5, *Барсукоў Кірыл* – 3, *Барсукоў Трафім* – 7, *Бахур Арцемій* – 9, *Грынькоў Мацвей* – 11, *Даўгулёў Нічыпар* – 4, *Дзіранок Нічыпар* – 5, *Карпянок Аляксей* – 5, *Карпянок Пётр* – 5, *Канавалёнак Васіль* – 2, *Купчанок Кузьма* – 3, *Макухін Клім* – 11, *Мастабаеў Іван* – 9, *Мастабаеў Іван* – 6, *Адзінцоў Іван* – 4, *Асіпёнок Сцяпан* – 3, *Петрашонак Герасім* – 8, *Прыходзька Аліферый* – 7, *Прыходзька Герасім* – 4, *Прыходзька Яфім* – 5, *Прыходзька Лявонцій* – 4, *Севасцёнак Цярэнцій* – 5, *Семянцова Кацярына* – 7, *Ствалавы Лаўрэнцій* – 5, *Ствалавы Максім* – 5, *Ствалавы Цімафей* – 5, *Хамяк Трафім* – 4, *Цыганак Архіп* – 5, *Цыганак Павел* – 6 і прыпісныя сем'і, гаспадарамі якіх былі: *Карпянок Іван* – 6, *Карпянок Акім* – 7, *Грынькоў Якаў* – 4, *Ствалавы Майсей* – 8;

У с. Майхінскае пасяліліся суражцы з сёлаў Кажаны і Ялоўка – усяго 27 сем'яў: *Аўтушонак Елісей* – 4, *Буранок Ягор* – 10, *Буры Ануфрый* – 12, *Голік Рыгор* – 4, *Голік Нічыпар* – 4, *Дзямянок Яфім* – 15, *Дварцовы Пётр* – 6, *Дарашонак Іван* – 5, *Дарашонак Мікалай* – 3, *Загарадны Сава* – 8, *Казёл Мікіта* – 3, *Крацянок Сямён* – 4, *Лісёнок Васіль* – 5, *Мельнікаў Патап* – 3, *Мурачоў Рыгор* – 8, *Панамаронак Карп* – 13, *Сергіёнак Вакула* – 4, *Сергіёнак Мірон* – 5, *Трэгуб Іван* – 9, *Шалупайка Ягор* – 10, *Чыркоў Дзмітрый* – 6, *Шаўцоў Герасім* – 14, *Яцкоў Яўсей* – 6, *Яцкоў Ісаак* – 5 і прыпісныя сем'і, гаспадарамі якіх былі: *Дуброўскі Васіль* – 6, *Кажамякіна Варвара* (удава) – 4, *Шпылько Раман* – 3 (РГИА ДВ, ф. 1, оп., д. 410, л. 95 – 100 об.).

Прыбыўшы на месца, перасяленцы да ўзвядзення хат зрабілі часовыя буданы, каб хавацца ад дажджоў і вятроў, і прыступілі да падрыхтоўкі зямлі пад раллю і будаўніцтва хат. У першы ж год жыцця на новым месцы высвятлілася, што большасць перасяленцаў гэтай партыі няздольныя працаваць на валах, і Усходне-Сібірскае губернатарства па хадайніцтве прыморскіх улад звярнулася ў Пецярбург, да міністра ўнутраных спраў: «...ищите лошадей. Генерал Баранов просит теперь же опросить переселенцев второй партии – скольким семьям нужны лошади, скольким волы. Благоволите уведомить меня результатом. Генерал Анучин». Улічваючы, што на перасяленне пайшлі далёка не самыя заможныя сяляне Чарнігаўскай губерні, улады паранейшаму надавалі навасельцам адмысловую ўвагу. Праз без малога два гады пасля пасялення Прыамурскі генерал-губернатар Андрэй Мікалаевіч Корф у дакладзе ад 21 снежня 1884 г. Міністэрству ўнутраных спраў пісаў: «Объехал по Уссурийскому краю, посетил почти всех переселенцев. Благодаря губернатору генералу Баранову край начинает быть благоустроенным. Известная часть края изучается, отношения к китайцам осторожны с достоинством, энергичны. Полиция хороша, хотя ее мало, почта хороша, о переселенцах заботятся, но переселенческий вопрос не может быть скоро вполне налажен, распашка целины крестьянскими средствами первые годы не вознаграждает даже работы, особенно при неурожаях или падеже. Состав крестьянских переселенцев весьма плох, переселенцы 1883 г. пострадали от падежей (жывёлы. – Н.Б.), успели вспахать, нуждаются в хлебе; поможем, но новых денежных ассигнований не потребуется. Несмотря на это, будущность их блестяща, хотя дело требует страшной деятельности, энергии и осторожности».

Перасяленне працягнулася па 1885 год уключна і спынена з 1886 г. (РГИА ДВ, ф. 702, оп.5, д.491, л.59). Найбольшую колькасць перасяленцаў даў у Прымор'е Суражскі павет Чарнігаўскай губерні.

У лістападзе 1884 г. па сяле Іванаўка значылася: сем'яў 24, душ – 132; працоўнай жывёлы лічылася: коней 10, быкоў 40; кароў 30; пад пасевамі было ўсяго 29,5 дзесяціны. 3 снежня 1884 г. сяляне Іванаўкі падалі напісанае Авяр'янам Мельнікавым прашэнне на імя Прыамурскага генерал-губернатара, якое ўключала зямельнае і царкоўнае пытанні. Другую частку прашэння прывядзем цалкам: «Еще покорнейше просим Вашего Высокопревосходительства что хотя бы и к нам наезжал священник в треть года один раз, так что у нас кладбище несвященное, и дома несвященные, и даже помирали некрещеные дети и убедительно просим Вашего Высокопревосходительства не отказать в той нашей просьбе похлопочите об нас бедствующих. Сельский староста Евстрат Мельников, а за него неграмотного расписался Аверьян Мельников».

Пытанне адкрыцця новых прыходаў і будаўніцтва цэркваў патрабавала неадкладнага вырашэння. У 1886 г. былі арганізаваны камітэт па будаўніцтве школ і цэркваў у Паўднёва-Усурыйскім краі, распрацаваны яго статут, і з рэшты крэдыту, адпушчанага на перасяленне ў 1885 г., утварыўся царкоўна-школьны фонд, які заняўся забеспячэннем сродкамі і дапамогай пры будаўніцтве. Камітэт па будаўніцтве школ і цэркваў выпісаў з Масквы царкоўнае начынне і прыналежнасці для іванаўскай і яшчэ чатырох новых цэркваў з умоваю, каб кошт царкоўных рэчаў быў вернуты прыхаджанамі на працягу некалькіх гадоў. Царква ў імя святога Іаана Хрысціцеля была пабудаваная ў с. Іванаўка ў 1888 г., асвечана 6 лістапада 1889 г., да таго часу сяло было цэнтрам Іванаўскай воласці, якая ўваходзіла ў Верхне-Усурыйскі ўчастак. У 1890 г. іванаўцы прасілі ва ўлад «на благоукрашение» царквы 1 000 руб.: «жители по своей новости еще не успели хорошо устроиться». Выдзелена было 800 руб.

У 1891 г. выбудаваная царква і ў с. Мікалаеўка.

У жніўні 1886 г. прынята рашэнне адкрыць у с. Іванаўка царкоўна-прыходскую школу на вылучаныя Свяцейшым Сінодам 700 рублёў; школу адкрылі ўвосень гэтага года, выкладаў у ёй псаломшчык. У далейшым асігнаванні на школу складалі штогод 350 рублёў.

Да 1912 г. у сяле была школа міністэрства народнай асветы, пабудова якой абышлася грамадству ў 7 500 рублёў, быў школьны надзел у 125 дзесяцін сухой сенажаці. Іванаўка – паранейшаму валаснае сяло, ужо з медыцынскім і фельчарскім пунктамі, штогадовым кірмашом; галоўны занятак іванаўцаў – земляробства, жывёлагадоўля, пчалярства.

Паспрабуем зразумець, як атрымалі свае назвы сёлы Іванаўка і Мікалаеўка. «Что касается названий новых деревень, то я по примеру 1883 г. предоставил переселенцам сохранить в них память о родине, почему все селения получили наименования или по волостям и деревням, откуда они вышли, или по престольному празднику церкви на родине» (РГИА ДВ, ф. 702, оп.5, д.487, л. 36 об.- 37 об). Разабрацца ў гэтым няпростым пытанні дапамагла Ірына Юр'еўна Смірнова, старэйшы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры (Мінск), якая мяркуе, што сёлы названы хадакамі ў адпаведнасці з царкоўнымі святамі: «Хадакі, якія прыехалі 24 кастрычніка 1882 года, выбіралі месцы для селішчаў, магчыма, на працягу 1–1,5 месяцаў, на гэты перыяд прыходзяцца святкаванні дня Іаана Колава, егіпецкага пустэльніка, 9 лістапада (паўсюль стары стыль. – Н.Б.); Іаана Міласцівага, патрыярха Александрыйскага, 12 лістапада; Іаана Златавуста, 13 лістапада; Мікалая Мірлікійскага, 6 снежня. У Неглюбцы была Свята-Мікалаеўская царква, якая дзейнічала з 1761 года, два мясцовыя ўшанаваныя абразы Свяціцеля Мікалая (Зімовы і Вясновы), так што цалкам лагічна выказаць здагадку пра такое ўзнікненне назваў».

Сёння Уладзівастоцкая епархія падзелена на пяць благачынняў: Цэнтральнае, Паўночнае, Усходняе, Паўднёвае і Заходняе, куды ўваходзіць прыход размешчанага ў с. Іванаўка храма апостала Андрэя Першазванага. Епархія ўзводзіць новыя і аднаўляе з поўнай адпаведнасцю архітэктуры і, калі дазваляюць умовы, на ранейшым падмурку, некалі разбураныя храмы, па магчымасці вяртаючы ранейшыя назвы прыходаў.

Прыамурскі генерал-губернатар Андрэй Мікалаевіч Корф меў рацыю: з цягам часу Іванаўка і Мікалаеўка, заснаваныя перасяленцамі з с. Неглюбка, значна павялічыліся і сапраўды сталі заможнымі.

*Наталля БУТКОЎСКАЯ,*
*г. Уладзівасток, Расія*

**Ад рэдакцыі.** ***Не ўсе архіўныя вытрымкі, змешчаныя ў артыкуле, суправаджаюцца спасылкамі на іх месцазнаходжанне. Пры жаданні чытачы могуць з імі пазнаёміцца ў рэдакцыі альбо непасрэдна ў аўтара (адрас у «КГ»).***



*Нашчадкі першых пасяленцаў у Прыморскім краі*

*Узгадкі аб тым, что аўтахтоннай этнічнай групай паўночна-заходніх раёнаў Бранскай вобласці (раней Чарнігаўская губ.) з'яўляюцца беларусы, сёння гучаць вельмі непапулярна. Тым больш, што стэрэатыпы мыслення агулам адносяць жыхароў былой Чарнігаўскай губерні да ўкраінцаў. Але не толькі даследчыкі народнай культуры, але Расійскія Статыстычныя камітэты ў XIX ст. адзначалі, што паўночныя паветы Чарнігаўскай губерні населены беларусамі, якіх называлі «літвінамі», а тэрыторыю іх пражывання (правы бок Сейма і Дзясны) – Задзесеннем. Вывучэнне беларусаў Бранскага краю этнографамі і лінгвістамі пачалося яшчэ у XIX ст. Такімі даследчыкамі, як Г. Есімантоўскі, С. Максімаў, М. Косіч, А. Рубец, П. Растаргуеў, А. Сержпутоўскі. У сталінскія часы вынішчэнне беларускай гуманітарнай навукі амаль цалкам спыніла даследаванні беларусаў Браншчыны, з 1950-х гг. даследаванні праводзілі толькі расійскія філолагі. У апошнія дзесяцігоддзі гэтую работу пачалі Гомельскі дзяржаўны універсітэт, Веткаўскі музей народнай творчасці, іншыя навуковыя ўстановы і даследчыкі нашай краіны.*

*«Прадстаўнікамі» беларусаў-літвінаў Задзесення на тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца жыхары вёсак Неглюбка і Казацкія Балсуны Веткаўскага р-на Гомельскай вобласці, якія падчас стварэння і скасавання Гомельскай губерні 1919–1926 гг. змянілі сваю тэрытарыяльную прыналежнасць.*

*Неглюбка досыць шырока вядома ў Беларусі як цэнтр узорнага ручнога ткацтва: прыгожыя шматколерныя неглюбскія ручнікі – адна з візітовак нашай краіны. Але мала хто ведае, што Неглюбка існуе больш 300 гадоў: упершыню «Неголюбка» ўзгадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1720 годзе як уласнасць Кіева-Пячэрскай лаўры. Пасля секулярызацыі царкоўных уладанняў у канцы XVIII ст. неглюбскія сяляне пераведзены ў лік дзяржаўных, якімі і заставаліся да 1917 года. Колькасць насельніцтва хутка павялічвалася, у сярэдзіне XIX ст. Неглюбка стала адным з самых буйных сёл (300 двароў) Суражскага павета Чарнігаўскай губерні. У канцы XIX ст. тут размяшчалася валасное праўленне, праваслаўная царква (пабудавана ў 1761 г.) і царкоўна-прыходская школа, было некалькі лавак, карчма, 5 ветраных млыноў і г.д. Недахоп зямель вымушаў насельніцтва не толькі займацца адыходніцтвам, але пераязджаць у іншыя мясціны.*

*Гісторыі перасялення неглюбскіх сем'яў на Далёкі Усход прысвечана работа Н.В. Буткоўскай, жыхаркі г. Уладзівастока. Наталля Віктараўна – член клуба «Радавед» Прыморскага Дзяржаўнага аб'яднанага музея імя В.К. Арсеньева, праўдзейны член Рускага Геаграфічнага Таварыства. Менавіта яе прапрадзед, неглюбчанін Дарафей Мельнікаў, у 1882 годзе выбраў месца для дзвюх новых вёсак – Іванаўкі і Мікалаеўкі, якія існуюсь па сённяшні дзень. У канцы XIX – пачатку XX стст. на гэтыя неабжытыя землі перасялілася значная колькасць беларусаў Магілёўскай і Чарнігаўскай губерняў. Жывучы далёка ад сваёй Радзімы, яны доўгі час захоўвалі асаблівасці мовы і традыцыйнай культуры (у прыватнасці, абрад Ваджэння Стралы і інш.). Вельмі паказальна, што даследчыкі і жыхары Прыморскага края ведаюць свае беларускія карані, вывучаюць іх і ганарацца імі.*

*З вялікім задавальненнем яны атрымаюць нумары «КГ» з гэтай пбулікацыяй.*

*Ірына СМІРНОВА*








## Заманлівая прахалода

**У летнюю спёку рэчкі, азёры асабліва заманліва клічуць да сябе, завуць акунуцца ў сцюдзёную прахалоду. Хіба можна адмовіцца ад такой прапановы? Асабліва, калі ідзеш па беразе вадаёма, стомлены ад дзённай гарачыні, успацелы.**

**Спачатку разгарачанаму целу вада падаецца халоднай, але «раз–два–тры-ы...» А як добра плаваць у вадзе, што прагрэлася толькі на паверхні. Як добра адчуваць пад сабой прыемную сцюдзёнасць. Невялікі нырэц, яшчэ адзін...**

**– Э-эх! – цяжка ўтрымацца, таму і крычыш ад задавальнення на ўсё наваколле.**

**Пасля на беразе, абсыхаючы, здзіўляешся. І куды толькі дзелася стома, млявасць, куды знік салёны пот? Хіба што спытаць у ветрыка, які лашчыць цябе. Альбо ў хваль, якія ледзь чутна плешчуцца, шапочуцца, заманліва клічуць зноў акунуцца ў прыемную прахалоду.**

***Ігар ГРЭЧКА, фота аўтара***

...тры-ы-ы!..

## Як упартая жонка сваё даказала

Была ў мужыка жонка. Звалі яе Васілісай. І надта ўжо яна была працаўнай: што ёй муж ні скажа – усё яна робіць наадварот. А было ў той вёсцы, дзе яны жылі, непраходнае балота. Толькі ў адным месцы ляжалі кладкі. І людзі хадзілі па іх.

– Ты ж хоць па балоту, Васіліска, не хадзі, – кажа муж.

– А вось і пайду!

– Дык хоць па кладках ідзі.

– А вось і не пайду!

– Ну, дык хоць камення не бяры з сабой.

– А вось і набяру!

Набрала яна поўны мех камення, узваліла на плечы ды й пайшла па балоту – усё насуперак таму, што муж казаў. Ну, дык толькі яе тады і бачылі – утанула ў багне жонка.

***Запісана ў в. Дабрынёва Дзяржынскага раёна***

## Як певень гаспадара навучыў

Была ў аднаго чалавека жонка. Ды надта ўжо злая. Няма ніякай рады мужыку. Хоць у лес бяжы і ўсё. Так ён і зрабіў. Пайшоў у лес. Бачыць, ляжыць калода. Захацеў ён яе звярнуць, аж адтуль выпаўзае змяіны цар.

– Не ўбівай мяне, мужык. Я зраблю так, што ты будзеш разумець голас птушак, дрэў, кветак.

Не ўбіў мужык змяінага цара. Прыязджае дамоў і стаў разумець голас птушак, дрэў, кветак. А жонка стала яшчэ горшай. «Пампу», – думае мужык. Лёг ён на лаву, узяў свечку ў руку і сабраўся паміраць. Тут певень вядзе курэй у хату. Ды й кажа:

– Ку-ка-рэ-ку! Што гэта з нашым гаспадаром?

– Ды жонка ў яго надта дрэнная.

– О, у мяне дванаццаць, і то ўсе мяне слухаюць, а ты, гаспадар, і з адной не можаш справіцца.

Падумаў мужык: «Праўду кажа певень. Няўжо я не змагу ўсмірыць сваю жонку?» Устаў мужык з лавы, патушыў свечку ды і пайшоў усміраць жонку.

***Запісана ў в. Дабрынёва Дзяржынскага раёна***

## Хітры жаніх

Была ў маці адна дачка на раду. Канешне, пястушка. Пагуляць любіла, рабіць не прывыкла. Прыгожая вельмі была. Многа мальцаў сваталася к ёй, а замуж ісці яна не хацела, бо ў свякроўкі работаць многа прыйдзецца.

І рашыў адзін хлапец з багатай сям'і абхітрыць гультайку! Кажа ён ёй:

– Выходзь за мяне замуж. Работы ў хаце мала. Будзеш толькі трох музыкантаў карміць і гадзіннік заводзіць.

Узрадавалася дзяўчына і згадзілася.

Прыехала да мужа, жывець дзень-другі і не бачыць у хаце ні музыкантаў, ні гадзінніка, які трэба было заводзіць.

Пытаецца нарэшце:

– А дзе ж мая работа?

– Пачакай, – кажа, – адлачні яшчэ трохі, а затым пакажу.

Назаўтра павёў ён маладую жонку ў клець.

– Бачыш жорны? Вось іх ты і будзеш заводзіць. А ў хляве жывуць трое свіней-музыкантаў. Мукі намелеш і накорміш іх кожан дзень.

Нічога не сказала прыгажуня і толькі цяжка ўздыхнула.

***Запісана ў в. Шахноўцы Ушацкага раёна***

## Безжыццёвае возера?

*Выходзіць, што ёсць такое і ў Беларусі, дзе нічога жывога ў ім няма – ні раслін, ні рыб, ні рознай вадзяной драбязы і мошак. Многія лічаць, што гэта – возера Сіняе ў Светлагорскім раёне. Туды тутэйшыя насельнікі запускалі карасёў, падводзілі гусей і качак, але дарма: рыба гіне, а птушкі ўцякаюць адтуль.*

*Вучоныя лічаць, што па пэўных прычынах у возеры вада перанасычана серавадародам і звычаецца паніжанай кіслотнасцю. Таму расліннасць чэзне, а без яе немагчыма рыбам і іншым жывым істотам. Праўда, вада не зусім непатрэбная: паколькі яна кіслая, то прыдатная для мыцця бялізны, прыбірае многія плямы і без парашкоў.*

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 21

***Уздоўж***

**1**. Булгарын. **8**. «Маладняк». **9**. Вырай. **11**. Нізок. **12**. Забалацце. **15**. Звонак. **18**. Хронас. **19**. «Беларус». **20**. Бондар. **21**. Класік. **24**. Ліцвяны. **26**. Глебка. **27**. «Світае». **31**. Далідовіч. **33**. Марыя. **34**. Будны. **35**. Бічоўнік. **36**. Магільна.

***Упоперак***

**1**. Чурылава. **2**. Ігнат. **3**. Рыдван. **4**. Лапаць. **5**. «Адзін». **6**. Пясочнае. **10**. Аловак. **13**. Казлоўскі. **14**. Прусінава. **16**. Лесавік. **17**. Кушляны. **22**. «Звязда». **23**. Следавік. **25**. Валыняне. **28**. Чашнік. **29**. «Кірмаш». **30**. Выток. **32**. «Буслы».

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ГАЛЬШАНСКІ ПАЛАЦ** (ЗАМАК) – помнік палацава-замкавай архітэктуры, пабудаваны па рашэнні Паўла Яна Сапегі (1609–1665; абозны, падстолі, ваявода віцебскі, віленскі і гетман вялікі літоўскі ВКЛ) на мяжы XVI–XVII стст. у в. Гальшаны (сённяшні Ашмянскі р-н). Быў разлічаны, каб асноўную абаронную функцыю выконвалі земляныя валы і бастыёны з сістэмай абваднення, якія мелі месца на значным аддаленні ад палаца. Меў падвалы, перакрытыя скляпеннямі. Кутнія мясціны палаца-замка мелі вежы, а сам ён быў адмыслова аздоблены. Збярогся часткова.

**ГАНАК** – лёгкая прыбудова перад уваходам у будынак з выкарыстаннем слупавой канструкцыі. Наверсе маглі быць рознай формы дахі. На Беларусі быў вядомы са старажытнасці, пачаў адмыслова афармляцца ў час забудоў замкавага і сядзібна-палацавага будаўніцтва, пачынаючы з XVI ст. Спачатку ладзіліся пры жылых дамах на падмурках і без падмуркаў, з выкарыстаннем каменю, вапны, цэменту і дрэва, з прымяненнем розных дэкаратыўных упрыгажэнняў. З даўніны да сённяшніх дзён у розных пабудовах рознага назначэння афармленне разнастайных ганкаў перажыло самыя розныя архітэктурна-мастацкія формы, паступова пераўтвараючыся і ў іншыя праекты – напрыклад, у своеасаблівыя прыстасаванні ў выглядзе *веранды*.



*Хата з ганкам у в. Наўліпа Полацкага раёна*

**ГАНДЛЁВАЯ ПЛОШЧА** – адна з галоўных мясцін у старажытных мястэчках і гарадах, дзе адбываліся гандаль рознымі рэчамі і народнае гулянне. На Беларусі была вядомая з самых даўніх часоў.

Гандлёвыя плошчы размяшчаліся ў самых выгадных месцах – каля рэк, дзе былі прыстані, каля замкаў альбо паблізу галоўных вуліц і ў выніку з'яўляліся кампазіцыйным цэнтрам сялібных пабудоў.

**ГАНДЛЁВЫЯ ЗБУДАВАННІ** – будынкі і комплексы пабудоў дзеля дзейнасці рознічнага гандлю – у савецкім часе дзеля сістэмы рознага віду універмагаў, універсамаў, накрытых рынкаў, спецыялізаваных магазінаў, магазінаў заказаў, розных павільёнаў, ларкоў. У гандлёвых збудаваннях часта былі гандлёвыя цэнтры. На Беларусі гандлёвыя збудаванні пачалі складвацца з крам, гасцiных двароў, гандлёвых радоў. З 1930-х на Беларусі стаўся новы тып гандлёвых збудаванняў – з універмагаў і універсамаў, дзе зусім не ўлічваліся гістарычныя акалічнасці, а найперш практычныя патрэбнасць: прыйшоў–купіў–сыйшоў. Пазней пры такіх збудаваннях пачалі наладжвацца кавярні, прытулкі для дзяцей і інш.

Цяпер, як і ў іншых краінах свету, утвараюцца іншыя гандлёвыя комплексы – маркетынгі (ад англ. гандаль, продаж; арганізацыя вытворчасці і збыту прадукцыі на аснове вынікаў інтэнсіўнага вывучэння і прагназавання попыту, цэн, шырокага выкарыстання рэкламы і стымулявання вытворчасці). Прыкра заўважыць, як і іншыя ўстановы, маркетынгі ў Беларусі лічаць непатрэбным у сваім абыходку ўжываць беларускую мову.



*Навагрудскія гандлёвыя рады (фота 1930-х гг.)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 14.06.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 716.
Тыраж 1400 асобнікаў.